Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 28 (82) Нядзеля, 19-га Ліпня 1925 г. м. Вільня. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць адзін раз у тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 80 гр.
„ „ 3 „ 2 зл. 40 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka, 1 „Hotel Sokołowskiego" pokój № 26. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр.; у тэксьце — 10 гр.; на апош. стар. — 5 гр.

## Новая перасьцярога.

Выбары 1922 года далі нам 16-ку.

Бязумоўна, пэўную нэгатыўную ролю ў дзяржаўным жыцьці краю, наагул, і зусім сумную ролю ў нашым нацыянальным беларускім жыцьці — 16-ка адыграла.

I хто ведае, калі-б агульна-палітычная сытуацыя, як ўнутраная, так і вонковая, была больш адпаведнай для 16-кі, ці ня адыграла-б яна значна вялікшай ролі?!...

16-ка была збудавана па прынцыпу нацыянальнаму: усе пакрыўджаныя нацыянальныя меншасьці злучыліся ў ёй і стварылі адзіны фронт.

У сучасны мамэнт гэтага ўжо няма. Ад часу, калі найбольш моцная складовая частка 16-кі — жыды адкалоліся ад яе, 16-ка, як саюз меншасьцяў, перастала існаваць. Выхад жыдоў быў толькі аднэй з прычын распаду 16-кі; галоўнай-жа прычынай гэтага распаду быў мамэнт не нацыянальны, а соцыяльны.

Ужо даўно зарысаваўшыйся падзел славянскіх меншасьцяў на два лагеры, нарэшце, прыняў зусім конкрэтныя формы. Ультра-радыкальныя часткі гэтых меншасьцяў зрабілі рашучы крок, і зусім прыблізіліся да комуністычнае фракцыі.

Гэткім чынам беларуская „ляваца" разьбіла Бел. Пасольскі Клюб і стварыла асобную „Сялянска-Работніцкую Грамату", з зусім выразным тварам; рэшта — абломкі „Бел. Пас. Клюбу" — прадстаўляюць ужо зусім дзіўную камбінацыю: умяркаваных клерыкалаў, „тоже бѣлорусов", быўшага „правадыра" клюбу і г. д. На чале гэтага новага „клюбу" паставілі нулявую фігуру, зусім адпавядаючую зьместу „клюба". Пры гэтакім „вінігрэтным" складзе новага „Бел. Пас. Клюбу" і „выразнай" палітычнай фізіаноміі яго старшыні, палітычнае credo гэтага „клюбу" — ёсьць такая загадка, якую і Піфія, мо, не разгадала-б!

Трэба прызнаць, што паслы, аб'яднаныя ў „Сялянска-Работніцкай Грамадзе" знайшлі бязумоўна лёгічны і адзіны выхад з таго тупіка, у які ўбіўся нябошчык-Бел. Пас. Клюб. Выхад гэты мы ўжо даўно прадбачылі („Ці за ці проці?"), гэта ёсьць — *супольны соцыяльны шлях з Радавай Беларусьсю*.

А з кім-жа цяпер пойдуць „разьбіткі карабля"? Застаецца яшчэ толькі адзіны шлях... той, па якому ўжо даўно цьвёрда і пераконана йдзе Часовая Беларуская Рада! Ці ня пойдзе гэтым-жа шляхам і новы „Бел. Пас. Клюб"? Але чым тады апраўдае ён сябе ў вачох грамадзянства за тую лаянку, якую бязупынна зьмяшчалі па нашаму адрасу яго афіцыёзы — „Праўды", „Долі", „Іскры" і г. д. Бо нашая ідэялёгія — ідэялёгія польска-беларускага паразуменьня, ўвесь час называлася імі „здрадай", „дэфэнзыўнай працай", „бандытызмам" і г. д. Што-ж скажуць цяпер п.п. паслы новага клюбу?

„Сялянска-Работн. Грамада" мае выразны твар! Гэта ўжо ня „вінігрэт", а выразная і спаяная, як палітычна, так і сацыяльна — група. У „грамадзе" толькі 4 паслы! Але дзеля таго, што невялічкая група гэта мае зусім выразную праграму, ня менш выразную тактыку, а галоўнае, мае моцнага і вельмі небясьпечнага закордоннага саюзьніка — Радавую Беларусь, дык лічба „4" прымае зусім іншую вагу. Значэньне гатае групы яшчэ больш павялічваецца калі ўспомнім, што з кожным днём прыбліжаюцца новыя выбары! Мы бачым, што ад часу выбараў у 1922 годзе, дэструкцыйныя элемэнты значна ўзмацавалі свае пазіцыі. Замест толькі 2-х паслоў комуністых, яны стварылі ўжо моцны „трайны саюз", які складаецца з „Комуністычнае Фракцыі", „Незалежнае Хлопскае Партыі" і „Сялян.-Работн. Грамады". Гэты саюз, бязумоўна, як адзін чалавек, стане да выбараў. Яму ўжо непатрэбны будуць і 16-ка, і грошы жыдоўскіх купцоў, бо золата ракой пацячэ на іх „працу" з Менска і Масквы.

Перамога 16-кі была, адначасова, і вялікай перамогай антыдзяржаўных элемэнтаў; гэтую перамогу мы балюча адчувалі на сабе, адчувалі „крэсы", адчувала і ўся Дзяржава. І цяпер перад новай, яшчэ больш грознай, *небясьпекай* патрэбна хуткая мобілізацыя ўсіх дэмократычных антыбальшавіцкіх і антысоцыялістычных групаў беларускага грамадзянства. Гэтая консолідацыя лёяльна-дзяржаўных беларускіх груціровак павінна пацягнуць за сабой даўно насьпелы перагляд дасюлешніх адносін да нас польскага грамадзянства.

Бо, дзякуючы сыстэматычным ненармальным, няшчырым і несправядлівым адносінам польскага грамадзянства да беларускага пытаньня, калісь вялікі і магутны беларускі полёнафільскі лагер—с кожным днём паменшаецца! Каб спыніць гэты працэс, польскае грамадзянства павінна найхутчэй перагледзіць свае адносіны да умеркаванай беларускай дэмакрацыі. Толькі кардынальная зьмена адносінаў польскага грамадзянства да беларускага народу, дасьць магчымасьць падыйсьці да разрашэньня гэтак балючага і важнага „крэсавага" пытаньня.

Але, перадусім, патрэбна шчырасьць. Толькі шчырыя адносіны да беларускай дэмакрацыі, могуць пагадзіць 4 мільённы беларускі народ з Польшчай; а пры гэтай шчырасьці бязумоўна прападзе і сумны факт сыстэматычнага зьяўленьня на беларускім палітычным гарызоньце розных авантурных адзінак „z pod ciemnej gwiazdy", а то, нават, і проста з крымінальнаю пройшласьцю.

Польскаму „крэсоваму" грамадзянству нельга ніколі забываць аб скандальных выніках сьпіску № 22.

*Газэту прачытай і перадай суседу!*

## Янка Купала.

*(З нагоды 20-гадовага юбілею, ягонае паэтыцкае творчасьці).*

15 траўня, бягучага году мінул 20-тыя ўгодкі (1905—1925) паэтыцкае творчасьці, найвялікшага з сучасна жывучых песьняроў беларускіх, Янкі Купалы.

*Янка Купала*, якога запраўднае імя й прозьвішча — *Іван Луцэвіч*, радзіўся ў Меншчыне ў 1882 годзе і паходзіць з незаможнае засьцянковае шляхты.

Ужо з малых гадоў зазнаў ён шмат бяды і зьдзеку, ды-й быў прымушаны да цяжкое фізычнае працы.

Але гэныя цяжкія абставіны не зламалі маладога хлапца, а толькі загартавалі ягоную кволую душу паэта, якая безпасрэдна, падчас цяжкай працы, знаходзіла сабе палёгку, выліваючы свае настроі і думкі ў сумных скаргах-песьнях....

I вось у 1905 годзе адбыўся першы дэбют маладога паэты на шпальтах прэсы.

15 траўня 1905 г. расейская газэта „Северо-Западный Край", выходзячая ў Менску, зьмяшчае на сваіх старонках беларускі верш Я. Купалы пад назовам „*Мужык*". Верш гэны спаткаўся з пахваламі і вось, заахвочаны удачаю, паэт выдае ў 1908 г. першы невялічкі зборнічак сваіх вершаў пад назовам „*Жалейка*", які абыймае вершы пісаныя ад 1905 да 1908 году. Вершыкі ў ім скромныя; формы вершаў не адзначаюцца рожнароднасьцяй; характар творчасьці — сялянскі, вясковы.

Але некаторыя з іх, маюць ужо ў сабе запаведзі нязвычайнага таленту I сапраўды, у чарговым зборніку паэзыяў, пад назовам „*Гусьляр*", выйшаўшым у 1910 г., і абыймаючым творчасьць паэты ад 1908 да 1910 г., мы ўжо бачым вялікі поступ датычна зьместу і формы ягоных вершаў.

Ды, мала таго, мяняецца тон і псыхіка паэта. Бо калі ў „Жалейцы" ён, між іншым, скромна казаў: „Я не паета, крый мяне Божа..." і г. д., то цяпер, у вершы „Гусьляр", ён прамаўляе з поўнай сьвядомасьцю велічы свайго становішча, як паэта.

„Гэй! Гусьляр, гусьляр!
Ты удар, удар!
Па струнах-званах!..."

З ростам і пашырэньнем ягоных духовых гарызонтаў, расьце й пашыраецца і ягоная творчасьць.

У тым жа 1910 г. зьяўляецца ягоная першая паэма ў 12-ці абразах „*Адвечная песьня*", у якой малююцца абразы з жыцьця беларуса-селяніна, ад люлькі аж да труны.

1913 год выяўляе ўжо поўны росьцьвіт ягонага таленту і прыносіць нам першы вялікі драматычны твор паэты: „*Сон на кургане*“, які ў сымвалічнай форме, закранае сацыяльнае пытаньне на беларускім грунце.

Твор гэны трэба залічыць да аднаго з лепшых ня толькі ў творчасьці Купалы, але і ў ваўсей беларускай адраджэнскай літаратуры.

У тым-жа 1913 годзе зьяўляюцца яшчэ: „*Паулінка*“, драма ў 2 акт. з жыцьця белар. здэнацыяналізаванай шляхты і „*Шляхам жыцьця*“, найвялікшы і найпрыгажэйшы зборнік ягоных вершаў за пэрыяд 1910—1913 г.

Зборнік гэты, стоючы на высокім мастацкім роўні, належыць да лепшых твораў паэты і выйшаў ужо 2-гім выданьнем у Вільні.

Сусьветная вайна спыняе па доўга ягоную творчасьць і толькі ў 1919 годзе выходзіць новы цэнны твор: „*Раскіданае гняздо*“ драма ў 5 акт. з сялянскага жыцьця, у якой, гэтак сама як і ў „Сьне на кургане“, элемэнт сацыяльны пераважае над нацыянальным.

У 1922 годзе, у Менску (ўжо пад бальшавікамі), выходзіць яшчэ адзін зборнік паэзіяў „*Спадчына*“, абыймаючы доўгі пэрыяд ад 1913 да 1922 г.

Каля гэнага-ж часу друкуюцца там „*Прымакі*“ камэдыя ў I акце і вялікая п'еса ў 4 актах пад назовам „*Тутэйшыя*“—трагі-комічныя сцэны з нядаўнага жыцьця „тутэйшых“ людзей.

Апошнім друкаваным творам паэта зьяўляецца зборнік вершаў „*Безназоўнае*“ выданы ў 1924 г., абыймаючы творчасьць паэта ад 1922 да 1924 г.

Але багатая творчасьць паэта не аграпічваецца гэтым.

Ен-жа ёсьць аўторам гістарычнае паэмы пад назовам „*Песьня а паходзе Ігара*“ і дасканальным перакладчыкам на беларускую мову пэрлаў чужацкае літаратуры, асабліва польскае.

Гэтак ён пераклаў на беларускі вялікую драматычную паэму з фантастычна-сымвалічным зьместам, вядомага польскага песьняра Жулаўскага пад назовам „*Эрос і Псіха*“ (W. Żuławski „Eros i Psyche“) і лібрэтто да опэры Манюшкі „Галька“ („Halka“ op. Moniuszki).

Шмат дробных перакладаў можна знайсьці ў зборніку „Шлахам жыцьця“, з якіх вызначаюцца пязвыклай точнасьцяй, захаваньнем разьмеру і мастацтвам апрацоўкі, пераклады з Міцкевіча, ласьне: 1) адрывак з „Конрада Вальлепрода“, 2) „Ваявода“ („Czaty“), 3) „Трох Будрысаў“ і 4) „Пані Твардоўская“.

Вядома, што гэткі „заходні“ чалавек ня можа сябе лішне добра пачуваць у „чырвоным“ Менску, дык ня дзіва, што ў апошнім зборніку „Безназоўнае“, у першым-жа яго вершу, мы знаходзім сьляды тае балючае духоўнае барацьбы паміж элемэнтамі: сацыяльным і нацыянальным якая йдзе ў псыхіцы аўтора.

„Я пралетар!... Мне бацькаўшчынай цэлы сьвет!“ — кажа ён з пафосам у пачатку вершу, а ў канцы ўсёж-ткі прызнаецца да „грэху“ супроць камунізму, ласьне, што яму дасюль яшчэ „*сьняцца сны аб Беларусі!*“ А значыць ідэя Бацькаўшчыны-Айчыны перамагае ў ягонай душы космапалітычныя імкненьні!...

Бязумоўна што ў варунках нармальнага жыцьця, у абапёртай на законнасьці дэмакратычнай дзяржаве, талент ягоны разьвіўся-б шмат ярчэй і багацей, але-ж тым большага спачуцьця і пашаны заслугоўвае ён, што не перастае тварыць на'т-у гэткіх, няспрыяючых вольнаму палёту паэтыцкае думкі, абставінах, як камуністычная аднабокасьць і вузасьць.

Дык *vivat, crescat, floreat ad multos annos!*

*Язэп Сьветазар.*

---

# Палітычны агляд.

Здарэньні, якія цяпер дзеюцца на эўрапейска-азіяцкай арэне, можна назваць сусьветным палітычным крызісам. На нашых вачох падрываецца і падае сусьветны аўторытэт Англіі, што можа пацягнуць за сабой вельмі важныя зьмены ўва ўсім палітычным укладзе Зах. Эўропы. Азія аб'яўляе аткрытую вайну Эўропе ў асобе Англіі, якая дагэтуль зьяўлялася галоўным кіраўнікам лёсу азіяцкіх народаў. За здарэньні, якія дзеюцца ў Кітаі і інш. краёх, Англія вінаваціць толькі бальшавікоў. Гэткім чынам падгатаўляецца паважны конфлікт між Англіяй і Саветамі, каторы можа закончыцца вайной.

Гэтая новая вайна абойме ўсю Эўропу, Азію і паўночную Афрыку, і яна ўжо пачаласян а крайніх флангах гэтага вялізнага фронта ў 15—20 тысячаў кілёмэтраў, у Кітаі і Альжыры, а ў цэнтры гэтага фронта, Сярэдняй і Малай Азіі, Сырыі, Ягіпце і Зах. Эўропе вядзецца гарачая да яе падгатоўка. Ані бальшавікі, ані немцы зусім ня скрываюць сваіх плянаў датычна дзяржаваў, якія іх разьдзяляюць. Фінляндская газэта па поваду ангельска-савецкага конфлікта піша, што балтыцкія дзяржавы павінны ўважна сачыць за падзеямі, якія разьвіваюцца на Усходзе. Гэткую-ж раду можна даць і Польшчы, Румыніі, Чэха-Славакіі, Юга-Славіі і інш. дзяржавам, якіх лёс залежыць ад істнуючага міру.

Больш чым пэўна, што ангельска-савецкі конфлікт закончыцца аружным спатканьнем спачатку гэтых дзяржаваў, а пасьля магчыма што й іншых. Дзеля гэтага, надта важна наперад выясьніць значэньне дасьпеваемых падзеяў, каб, як кажа фінляндская газэта, не апынуцца ў неўспадзеўках. Пляны бальшавікоў заўсёды ведамы: яны імкнуліся і імкнуцца выклікаць рэвалюцыю на ўсенькім сьвеце і працуюць у гэтым напрамку ўсюды, дзе толькі ёсьць дзеля гэтага выгодныя варункі. Эўрапэйскі грунт аказаўся ня зусім падатным для бальшавізму. Захад яго ня прыняў. Ня гледзячы на ўсе стараньні бальшавікоў, уся іхняя ўдача абмяжоўваецца нязначнымі «выбухамі» і тэрорыстычнымі актамі, якія ня маюць вялікага значэньня. Дзеля гэтага яны выбралі Азію, якая мае вельмі падатны грунт дзеля іхняе работы. Нездаволеньне Азіі з эўрапэйцаў бязупынна расьце і бальшавізм мае ў гэтым нездаволеньні ролю іскры, папаўшай на бочку с порахам. Азія, як ведама, прадстаўляе цяпер адзіны рынак збыту для эўрапэйскіх дзяржаваў. І калі адабраць ад іх гэты рынак, дык эканамічны, а разам з гэтым і палітычны крах вялікіх эўрапэйскіх дзяржаваў, як Англія і Францыя— пэўны. А тады можа й удасца бальшавікам раздмухаць рэвалюцыйны пажар і ў Эўропе. У гэтай рабоце бальшавікам скрытна памагаюць немцы.

Якую-ж роль мае Нямеччына ў ангельска-савецкім конфлікце і якую можа выцягнуць адсюль дзеля сябе карысьць? Немцы хочуць нацкаваць Англію і Францыю на барацьбу ў Азіі і Афрыцы, што ўжо крыху ім удалося. Тады яны будуць пачувацца свабоднымі ў Эўропе і могуць падгатаўляцца да мамэнту рашучых падзеяў, каб выступіць на старане таго ці іншага. Эўрапэйцаў могуць выперці з Азіі або Афрыкі, але немцы нічога праз гэта ня трацяць і не шкадуюць пасьля таго, як яны ў рэзультаце сусьветнай вайны былі выціснуты з гэтых частак сьвету і пазбаўлены колёніяў. А ад таго, ці бальшавікі з гэтай вайны выйдуць пераможцамі ці пераможанымі, таксама яны нічога не трацяць. Рэзультат ангельска-савецкага спатканьня будзе залежны ад таго, ці ангельцаў падтрымаюць іншыя дзяржавы. Калі толькі Англія ў гэтай барацьбе застанецца адна, як цяпер, дык наперад можна сказаць аб яе няўдачы і ўтраце яе сусьветнай магутнасьці. Англія ўласнымі сіламі нічога бальшавікам ня зробіць і ня спыніць таго нездаволеньня ёю (Англіяй), якое ахапіла ўвесь Кітай, а хутка мабыць перакінецца й на Ягіпт.

Бальшавікі добра ведаюць псыхалёгію эўрапэйскіх дзяржаваў, якія хутчэй гатовы пашкодзіць адно аднаму, чымся памагчы.

Нядаўна на Балтыцкім моры адбылася дэмонстрацыя ангельскага ваеннага флёту проці Ленінграда, які пабываўшы ўва ўсіх прыбалтыцкіх дзяржавах, не зайшоў у Кронштадт. А італьянскі ваенны флёт быў у Ленінградзе, дзе быў вельмі добра прыняты бальшавікамі. І гэта ёсьць салідарнасьць хаўрусьнікаў перад блізкай небясьпекай! І гэтак усюды і ўва ўсім. Бальшавікі пераконаны, што калі толькі ім удасца падарваць ангельскую магутнась у Азіі, дык Амэрыка і Японія будуць толькі здаволены, што ня будзе на Усходзе для іх паважнага конкурэнта. Але эўрапэйскім дзяржавам, асабліва пагранічным з С.С.Р.Р., балканскім, Чэха-Славакіі і Францыі трэба глядзець на конфлікт між Англіяй і С.С.Р.Р. с такога погляду: праўда, Англія адзначалася эгоістычнай палітыкай; умешывалася ў чужыя справы, калі магла з гэтага мець нейкую карысьць,—але трэба памятаць, што ўсёткі яна падтрымоўвае Вэрсальскі трактат, ідэю Лігі Народаў і састаўляе процівагу Нямеччыне на Заходзе. А перамога

---

ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ.

# ДРЫГВА

## драматычны эскіз ў 6-ёх абразох.

(*Глядзі „Грам. Гол.“ № 79*).

**Манька** (*ўваходзіць*). Пане Лякдугна! Кіньце пяяць! Цяпер ноч, усе сьпяць ды й на вуліцы чутно, прыйдзе паліцыя, зробіць пратакол . . .

**Лякдугна** (*хапае яе за руку, абліває яе сьлязмі і цалуе*). Маня! Ратуй мяне! я тону! дрыгва цягне мяне . . . І сябе ратуй! Уцякай ты з гэтае бруднае нары! уцякай на вёску! Там калосіцца жыта, там васількі цьвітуць, там сенажаць сьмяецца ўсімі сваімі краскамі — уцякай адсюль, Манька, бо прападзеш так, як я прападаю . . . (*плача*).

**Манька**. Ціха, пан Лякдугна, як можна!... Сорам! Вы чалавек разумны, вучоны — і гэтак плачаце!

**Лякдугна** (*перайшоўшы на іншы тон*). Праўда! Праўда, Маня! Далоў сьлёзы! Сьлёзы — гэта атрута, гэта яд, які расслабляе душу . . . Мы павінны сьмяяцца, весяліцца! Будзем пяяць гімн жыцьця і шчасьця! Няхай гудзяць літаўры, няхай сыплюцца кветкі! Будзем кружыцца як віхор у шалёных скоках! (*хоча абняць Маньку, яна ўцякае*).

**Манька**. Пане Лякдугна! Кіньце! . . .

**Лякдугна** (*да Галубоўскага*). Галубоўскі! А ты чаму ня скачаш? Хадзі, паскачам з табой у чэсьць радасьці жыцьця! (*хапае Галубоўскага за плечы і абняўшыся пачынае з ім нешта дзікае, пасьля абодва падаюць*).

**Гаспадыня** (*босая, неапранутая, у хустцы накінутай на плечы ўваходзіць на гэты шум*). А, Божа-ж ты мой! А што-ж тут робіцца? Галубоўскі! Што ты з глузду зьехаў, ці што? Ідзі спаць! (*да Лякдугны*): А вам, панок ня сорам? Разумны чалавек, а скача як дурны. А яшчэ студэнт!..

**Лякдугна** (*седзючы на падлозе*). Дрыгва цягне мяне . . . Ратуйце! Дрыгва цягне!

**Гаспадыня**. Ах, бяда з гэтымі п'яніцамі!

ЗАСЛОНА.

IV.

Рэч дзеецца пару месяцаў пасьля. Дэкарацыя тая самая. Вечар. Лямпы запалены. **Гаспадыня** дрэмле, седзючы за буфэтам. **Манька** сядзіць і нешта сабе шые. Лякдугна і Галубоўскі сядзяць пры адным са столікаў і п'юць гарэлку.

**Лякдугна** (*п'яны*). Іі, Галубоўскі!

**Галубоўскі** (*ікае*). Нне . . . магу!

**Лякдугна**. Ты, Галубоўскі, мастак, ты—артыст! У цябе душа не такая, як у іншых людзей, у цябе душа як арфа Эолева. Лёганькі дзьмух ветра, кожнае дрыгненьне чалавечага сэрца адклікаюцца на струнах душы тваей, Галубоўскі! Ты, Галубоўскі, павінен пісаць, ты напішаш вялікую рэч! Увесь сьвет пахіліць галаву перад табой, Галубоўскі! . . . І чаму ты ня пішаш, Галубоўскі?

**Галубоўскі**. Я пісаў. У канцылярыі пісаў. Трыццаць рублёў браў. Піць пачаў. З канцылярыі выгналі . . . і жонка выгнала . . .

**Лякдугна**. Жонка? Што ёсьць жонка, Галубоўскі? Для гэткіх людзей, як ты і я, няма жонкі, Галубоўскі! Ты, Галубоўскі, павінен ісьці праз жыцьцё, як праз усея-

